ГРОДНА
№1 (576),
9 студзеня 2022

# СЛОВА ЖЫЦЦЯ

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



## Супольна будаваць еднасць




*Тыдзень малітвы аб еднасці хрысціян, які ўжо на працягу многіх гадоў перажываем на пачатку года, заўсёды з'яўляецца вельмі важнай падзеяй, таму што еднасць – самая вялікая патрэба нашага часу. Ад яе залежыць верагоднасць хрысціянства і будучыня свету.*

на старонцы 2

## "Хацела, каб яе пахавалі разам з сёстрамі мучаніцамі". З успамінаў сведкі



*С. Тэрэза Касінская CSFN дзеліцца гісторыяй с. Малгажаты, разам з якой, будучы яшчэ юнай дзяўчынай, перажыла дзве акупацыі Навагрудка і няпросты пасляваенны час. Спачатку с. Тэрэза распавядае са слоў самой с. Малгажаты, пасля прыводзіць уласныя ўспаміны.*

на старонцы 3

## Асвячэнне новага касцёла ў Гродне




*Парафія з 24-гадовай гісторыяй нарэшце мае свой кансэкраваны касцёл.*

на старонцы 4

# ШТО ВАРТА ЎЗГАДАЦЬ З ЖЫЦЦЯ КАСЦЁЛА НА ГРОДЗЕНШЧЫНЕ




на старонцы 5

# "ПРЫНЕСЛІ, ПАХРЫСЦІЛІ І ДА ПАБАЧЭННЯ".

## АЙЦЕЦ ФЕДАРОВІЧ ПРА ХРОСТ І АДКАЗНАСЦЬ




**Практыка хросту немаўлят, верагодна, існуе з першых стагоддзяў хрысціянства. Гэты падыход не з'яўляецца абавязковым, аднак людзі заўсёды імкнуліся пахрысціць дзіця як мага хутчэй. Некаторыя пратэстанцкія Цэрквы, напрыклад, адышлі ад гэтай практыкі і хрысцяць толькі юнакоў. Разам з а. Паўлам Федаровічам спрабуем разабрацца ў мінусах і плюсах хросту несвядомых дзяцей.**

на старонцы 6

СЛОВА РЭДАКТАРА

# Дарагія Чытачы!



*Святы хрост – гэта сакрамант, які можна параўнаць з дзвярыма, праз якія мы ўваходзім у Касцёл. Хутчэй за ўсё, большасць з нас была ахрышчана ў дзяцінстве і мы не памятаем дзень свайго хросту. Таму многія ахрышчаныя ставяцца да гэтага сакраманту як да нейкай фармальнасці, да якой больш не вяртаюцца і пра якую не памятаюць.*

*Свята Хросту Пана, якое перажываем адразу пасля Божага Нараджэння, дае нам магчымасць задумацца над сэнсам хросту, які ачышчае ад плямы першароднага граху. Гэта момант, калі кожны з нас атрымлівае права называць сябе дзіцём Божым і кожны становіцца для Яго кімсьці важным, а нават найважнейшым.*

*Гляньма на свой хрост не толькі як на тое, што адбылося калісьці ў дзяцінстве, але як на пачатак новага этапу ў нашым жыцці. Хрост з'яўляецца прычынай таго, як піcаў св. апостал Павел, што мы становімся паводле надзеі спадкаемцамі вечнага жыцця (параўн. Ціт 3, 7). Дык жыйма як спадкаемцы, як сыны, як дочкі добрага Айца!*

ks. Jerzy Martinowicz

КАЛЯНДАР

## 9 студзеня

***Свята Хросту Пана.***

*Свята Хросту Пана завяршае перыяд Божага Нараджэння, хоць, паводле традыцыі, калядныя песні ў нашых святынях спяваем ажно да свята Ахвяравання Пана (2 лютага).*

*Успамінаючы хрост Пана Езуса ў Іардане, думаем таксама пра свой хрост, які з'яўляецца пачаткам і асновай нашага хрысціянскага жыцця. У гэтым сакраманце мы атрымалі годнасць усынаўлёнага Божага дзіцяці і дар Божай любові. Былі таксама ўключаны ў супольнасць Касцёла. Прыняцце хросту з'яўляецца для нас таксама вялікім абавязкам. Таму што мусім усё больш прыпадабняцца Хрысту, гэта значыць любіць Яго ўсё больш і вучыцца ў Яго, як любіць бліжніх.*

## 13 студзеня

***Успамін св. Гілярыя, біскупа і доктара Касцёла.***

*Гілярый, выхаваны ў паганскай сям'і, толькі пасля доўгіх пошукаў і настойлівага вывучэння Святога Пісання знайшоў Бога, ахрысціўся, а ў 350 годзе стаў біскупам. Імператар Канстанцый саслаў яго ў Малую Азію, дзе ён дасканала вывучыў багаслоўе Усходу, багацце якога потым спрабаваў прышчапіць на Захадзе. Па гэтай прычыне яго часам называюць першым экуменістам. Быў вельмі актыўным удзельнікам арыянскага дыспуту, у якім адстойваў праўду пра бовства Хрыста.*

## 18–25 студзеня

***Тыдзень малітвы аб еднасці хрысціян.***

*Тыдзень малітвы аб еднасці хрысціян, які мае больш за стогадовую традыцыю, стаў цыклічным святам экуменізму. У гэты час хрысціяне розных канфесій сустракаюцца па ўсім свеце на экуменічных набажэнствах, малітвах, канферэнцыях, канцэртах і іншых мерапрыемствах. Сёлета Тыдзень малітвы аб еднасці хрысціян будзе праходзіць пад дэвізам "Мы бачылі зорку Ягоную на ўсходзе і прыйшлі пакланіцца Яму" (Мц 2, 1–2).*

## 21 студзеня

***Успамін св. Агнешкі, панны і мучаніцы.***

*Агнешка была ў старажытнасці адной з самых папулярных святых. 12-гадовай дзяўчынкай яна была замучана да смерці на стадыёне Даміцыяна каля 305 года. Сёння на месцы "крывавага сведчання" знаходзіцца П'яца Навона – адно з самых прыгожых і наведваемых месцаў Рыма. Акурат побач, над магілай мучаніцы, узведзена базіліка пад яе тытулам, у якой 21 студзеня – паводле старога звычаю – асвячаюць двух белых ягнят. З іх воўны манахіні робяць паліі, якія Папа штогод 29 чэрвеня (ва ўрачыстасць свсв. апосталаў Пятра і Паўла) накладвае новапрызначаным мітрапалітам Каталіцкага Касцёла. У гэтым годзе палій атрымае арцыбіскуп Юзаф Станеўскі, Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі.*

# СУПОЛЬНА БУДАВАЦЬ ЕДНАСЦЬ




*Экуменічнае набажэнства ў гродзенскім катэдральным касцёле св. Францішка Ксаверыя, 2018 год*

*працяг са с. 1*

***Кс. Юрый Марціновіч***

Езус Хрыстус перад сваім Унебаўшэсцем пакінуў нам еднасць як запавет, молячыся аб ёй:

> **"Верыць у Хрыста – значыць жадаць еднасці; жадаць еднасці – значыць жадаць Касцёла; жадаць Касцёла – значыць жадаць камуніі ласкі, якая адпавядае плану Айца, распачатаму перад усімі вякамі" (Ян Павел II, "Ut unum sint", 9).**

"Ойча, каб усе былі адно" (параўн. Ян 17, 21). Ён таксама паказаў нам шлях да еднасці, даўшы запаведзь, якую акрэсліў як новую і сваю: "Любіце адзін аднаго, як Я палюбіў вас" (параўн. Ян 15, 12). Сказаў, што менавіта ўзаемная любоў з'яўляецца візітоўкай хрысціян: "Па гэтым усе пазнаюць, што вы Мае вучні, калі будзеце мець любоў адзін да аднаго" (Ян 13, 35). Сапраўды, першыя хрысціяне вельмі стараліся гэта рэалізаваць. Іх супольнасці былі настолькі згуртаваныя, што нават язычнікі былі ўражаны і казалі: "Паглядзіце, як яны любяць адзін аднаго і гатовыя аддаць жыццё адзін за аднаго".

Цягам часу і стагоддзяў Касцёлу давялося абараняць праўды веры, якім пагражалі многія ерасі. Рашучая абарона праўды ўзяла верх над духам братэрскага дыялогу, а з другога боку няўмольная афірмацыя памылак узамен паслухмянасці прывяла да першых, а затым і наступных расколаў. Сёння ў свеце замест аднаго Хрыстовага Касцёла існуе больш за 400 Касцёлаў і хрысціянскіх супольнасцей. Свет, які глядзіць на нас, ужо не кажа: "Паглядзіце, як яны любяць адзін аднаго", а хутчэй: "Паглядзіце, як яны падзелены паміж сабой".

Таксама па гэтай прычыне ў сучасным свеце распаўсюджваюцца разнастайныя ідэалогіі, іншыя рэлігіі і пашыраецца атэізм. Калі мы, хрысціяне, становімся непраўдападобнымі, людзі шукаюць праўду ў іншым месцы. У такой сітуацыі можна думаць так: "А што я магу зрабіць? Справа адзінства хрысціян – гэта справа кіраўнікоў Касцёла, а не мая". Не зусім! Таму што кожны хрысціянін пакліканы будаваць еднасць. Сапраўднага хрысціяніна павінна непокоіць кожная спрэчка, кожны канфлікт і нават простае непаразуменне паміж людзьмі, асабліва тое, прычынай якога стаў ён сам.

Таму гэты тыдзень з'яўляецца для нас магчымасцю праверыць, ці будую я адзінства найперш там, дзе жыву, у сваім асяроддзі, у сям'і, з суседзямі, на працы, у парафіі. Бо паўсюль сустракаю сваіх братоў. Гэта вельмі канкрэтны заклік кожнага з нас да еднасці, да таго, каб пачаць бачыць у навакольных людзях родных, у целе якіх цячэ тая ж кроў. Мы ўсе як хрысціяне з'яўляемся сваякамі, бо нас яднае кроў Хрыста. Таму што праз святы хрост мы сталі членамі Містычнага Цела Хрыста – Касцёла. Каб наш арганізм быў здаровым, кроў павінна ў ім цыркуляваць. Так жа і ў целе Хрыстовым. Кроўю Хрыстовага цела з'яўляецца любоў. Касцёл будзе жывы і здаровы, калі любоў Хрыста, дадзеная кожнаму з нас праз Эўхарыстыю, будзе перадавацца далей іншаму чалавеку і цыркуляваць паміж усімі намі. Толькі так Касцёл можа жыць і выконваць сваю місію, быць прыкладам для свету і евангелізаваць яго.

> **"Хрысціяне іншых канфесій з іх традыцыямі і гісторыяй – гэта дары Божыя, гэта дары, якія прысутнічаюць на тэрыторыях нашых дыяцэзіяльных і парафіяльных супольнасцей. Давайце пачнём маліцца за іх, а калі магчыма, то разам з імі" (Францішак, агульная аўдыенцыя 20 студзеня 2021 г.).**

Хрысціянства – гэта жыццё ва ўзаемнай любові. Калі мы не жывём ва ўзаемнай любові, мы, хрысціяне, не з'яўляемся сабой і не выконваем сваю місію. Памятайма пра гэта. Давайце глядзець адзін на аднаго як на сваякоў. Калі ўзнікаюць разыходжанні ў інтарэсах, калі адбываюцца нейкія непрыемныя падзеі, паразмаўляйма пра гэта ў духу адкрытасці, дыялогу, слухання і разумення прычын другога чалавека, гатовыя папрасіць прабачэння або дараваць. Тады цяжкасці нас не раздзеляць.

Калі мы пачнём будаваць еднасць у сваім асяроддзі, у розных сітуацыях штодзённасці, тады зробім свой невялікі, але незаменны ўклад, каб еднасць хрысціян развівалася і ў шырокім маштабе – паміж Касцёламі. Тады мы пачнём жыць новай культурай – культурай дыялогу, справядлівасці і міру, а таксама падрыхтуем лепшы свет для будучых пакаленняў.

# "ХАЦЕЛА, КАБ ЯЕ ПАХАВАЛІ РАЗАМ З СЁСТРАМІ МУЧАНІЦАМІ". З УСПАМІНАЎ СВЕДКІ



працяг са с. 1

**У снежні папа Францішак ухваліў дэкрэт аб гераічнасці цнот адзінай ацалелай падчас Другой сусветнай вайны назарэтанкі з Навагрудка – с. Малгажаты Банась (свецкае імя Людвіка). Гэта значыць, што неўзабаве яна можа быць прызнана блаславёнай, як і 11 сясцёр мучаніц, расстраляных фашыстамі.**

*Занатавала Ангеліна Марцішэўская*

Калі яшчэ маці насіла яе пад сэрцайкам, то хадзіла ў Чанстахову і там моцна малілася за сваё патомства. Неўзабаве пасля нараджэння дзіцяці матуля памерла, а маленькую Людвіку прыняла да сябе стрыечная сястра нябожчыцы, бо бацька аджаніўся ў другі раз. Час ад часу ён браў дзяўчынку з сабой на кірмаш. Калі яны міналі кляштар сясцёр назарэтанак, Людвіка заўсёды ўглядалася ў вокны падвала – там заўсёды гарэла святло, бо была пральня – і назірала, як манахіні працуюць. Ужо тады яе цікавіла манаскае жыццё. Пасталеўшы, дзяўчына спачатку працавала ў шпіталі, а пасля ўступіла ў кляштар. Ей моцна падабалася служыць у доме сясцёр у Варшаве, і калі запрасілі ў Навагрудак, засмуцілася і нават плакала. Аднак рашэнне было прынята, бо ў школу, якую адчынілі там сёстры назарэтанкі, патрэбны былі супрацоўнікі. Тады тагачасны біскуп Зігмунд Лазінскі цэлебраваў у інтэнцыі с. Малгажаты св. Імшу, каб ёй добра служылася на новым месцы, і манахіня паехала на нашы землі. Калі частка тэрыторыі адышла пад савецкую акупацыю, сёстры былі вымушаны змяніць хабіты на свецкую вопратку. С. Малгажата ў гэты няпросты час пайшла працаваць у шпіталь – санітаркай у хірургічным аддзяленні.

Добра памятаю гісторыю, як с. Малгажата пацярпела падчас бамбардзіроўкі Навагрудка. Калі ляцелі самалёты, яна акурат праходзіла каля касцёла св. Міхала, побач з якім за вялікім плотам – 1,5 метры ў вышыню – вялося будаўніцтва. Дзяваца не было куды, і яна што ёсць моцы скокнула праз агароджу. Пасля сама смяялася з таго, як гэта ў яе атрымалася. "Пералятаючы" праз плот, пашкодзіла нагу, наступіўшы на дошку з цвікамі. Разам з тым пасля выбуху бомбы аскепак ад чагосьці трапіў прама ёй у лоб – шрам ад раны застаўся да самай смерці. Гэтакжа добра я памятаю і кожную з сясцёр мучаніц, іх вобразы і імёны. Калі іх вялі ў камісарыят, с. Малгажата якраз вярталася са шпіталя. Яна ішла насустрач манахіням і пачула загад ад настаяцельніцы заставацца на месцы і не ісці за імі. Сястра заспяшалася дадому, дзе разам з мясцовым ксяндзом Зянкевічам укрылася на гарышчы гаспадарчай забудовы – чакаць вяртання сясцёр…

Пасля гібелі мучаніц сястра засталася пры касцёле адна. Адчыняла, зачыняла святыню, цалкам даглядала яе, трымала гародчык. Калі каму трэба было узяць шлюб ці пахаваць чалавека, ведала, куды скіраваць вернікаў. Перад Вялікаднем с. Малгажата звычайна брала вялікую драўляную валізку, пакавала туды яйкі, соль, хлеб і вязла ў бліжэйшае мястэчка, дзе быў ксёндз (у Ліду ці Баранавічы), каб асвяціць усё і пасля раздаць вернікам у навагрудскай Фары. У той час, каб святар прыехаў у парафію толькі дзеля асвячэння прадуктаў, патрэбны быў адмысловы дазвол ад улад.

Таксама манахіня знайшла месца расстрэлу сясцёр – намацала іх целы. Затым пазначыла зямлю, пасадзіўшы там 4 елачкі, і цягам пэўнага часу мясцовыя вернікі збіраліся ў лесе на малітву. Пасля эксгумацыі і перад перапахаваннем мучаніц каля касцёла с. Малгажата заўважыла, як з пальца сястры настаяцельніцы Стэлы ссунуўся срэбны шлюбны пярсцёнак. Яна захавала яго для сябе. Пасля паказвала мне, распавядаючы, што клала яго ў шклянку з вадой і затым выпівала гэтую ваду. Такім чынам павышала ў арганізме ўзровень кіслотнасці, які ў яе быў заніжаны, ад чаго моцна пакутавала. Казала, што і не заўважыла, як стала лепш сябе адчуваць.

У пэўны момант у нас адбылася доўгачаканая падзея – з'явіўся душпастыр, а. Войцех Навачык. Аднак хутка яго арыштавалі і прыгаварылі да 60-ці гадоў ссылкі. Вернікі звярнуліся да ўлад, каб далі дазвол на новага святара, а тыя адказалі: "Вось калі вернецца са ссылкі Навачык, тады і будзеце мець ксяндза". Неўзабаве памёр Сталін – кс. Навачыка апраўдалі і ён, адбыўшы толькі 6 гадоў ссылкі, вярнуўся ў Навагрудак. Жартаваў пасля, што Бог скрэсліў з дадзенага яму тэрміна нулік.

С. Малгажата разам з ксяндзом пасяліліся ў хаце, якую на іх апісалі дзве мясцовыя жанчыны. Праз 10 гадоў манахіня пачала хварэць на пнеўманію, і калі прайшла даследванне, аказалася, што адно лёгкае ў яе ўжо два гады не працуе. Відаць, застудзіла, пакуль жыла ў халоднай закрыстыі, каб пільнаваць святыню. У цяжкім стане яе паклалі ў шпіталь. Я ў той час працавала швачкай і штодня пасля змены хадзіла яе даглядаць.

Пасля выпіскі з бальніцы с. Малгажата накіравалася адразу ў касцёл, адчыніла яго, а зачыніць ужо не змагла – ксёндз знайшоў яе нерухома сядзячай у лаўцы. У ляжачым стане сястра пражыла яшчэ сем месяцаў. Я працягвала наведваць яе штодня. Калі манахіня адчула блізкую смерць, папрасіла мяне, каб я дастала з шафы чамадан, адтуль – хабіт. Хацела, каб у ім пахавалі, бо да канца жыцця працягвала насіць свецкае адзенне.

Пасля таго, як с. Малгажата адышла да Пана, я дакладна ведала, што рабіць. Калісьці, калі памерла мая маці, менавіта с. Малгажата прыйшла, каб памыць уже мёртвае цела і зрабіць усе патрэбныя рэчы. Не забылася і пра нас, падлеткаў і дзяцей, наварыла бульбы і капусты кіслай дала, "каб з голаду не паўміралі, пакуль пахаванне пройдзе". Была з добрым сэрцам яна.

Пахавалі сястру на мясцовых могілках. Пасля пакутніцкай смерці назарэтанак яна дбала пра духоўнае жыццё вернікаў з Навагрудка на працягу 23-ох гадоў, другую палову з якіх – побач з ксяндзом.

# ВОЎПА. САМЫ ВЯЛІКІ ДРАЎЛЯНЫ КАСЦЁЛ БЕЛАРУСІ

*Андрэй Вашкевіч*

Да Другой сусветнай вайны Воўпа была маляўнічым, забудаваным галоўным чынам драўлянымі дамамі, мястэчкам, большасць насельніцтва якога складалі яўрэі. Не толькі касцёл, але і царква, і сінагога былі пабудаваны з дрэва і таксама прыцягвалі сваім выглядам увагу гісторыкаў ды спецыялістаў па архітэктуры. На няшчасце, нямецкія бомбы, якія ўпалі на Воўпу 29 чэрвеня 1941 года, пакінулі на месцы мястэчка суцэльнае папялішча. Ацалеў толькі размешчаны трохі збоку ад мястэчка вялізны драўляны касцёл, дзе ваўпянцы і сёння славяць Госпада Бога.

Першыя звесткі пра мястэчка адносяцца да 1449 года, калі Воўпа належала вялікаму князю Казіміру Ягелончыку. 3 лістапада таго ж года ён падарыў вёску і двор Воўпа свайму пасцельнічаму Алехну Судзімонтавічу. У лісце было запісана, што дараванне застаецца за ім ці яго нашчадкамі, калі ж іх не будзе – вяртаецца да вялікага князя.

Менавіта Алехна і яго жонка Ядзвіга заклалі ў Воўпе першы касцёл. У 1478 годзе яны багата забяспечылі новую парафію сялянскімі дварамі, якія павінны былі працаваць на касцёл і плаціць даніну мёдам. Касцёл атрымліваў мясцовасць Міраўшчына з борам, борцямі, дубровамі і лугамі. У святыні павінны былі штотыдзень адбывацца дзве Імшы – адна за продкаў Алехны, другая – за яго самога, жонку і дзяцей.

У пачатку XVI стагоддзя Воўпа перайшла да князёў Гальшанскіх, частка з якіх незадоўга да таго прыняла каталіцтва. Аляксандр і Зоф'я Гальшанскія прыбудавалі да касцёла багата аздобленую капліцу, дзе павінны былі размяшчацца іх пахаванні. Іх сын Павел Гальшанскі, адзін з самых адукаваных людзей свайго часу, стаў віленскім біскупам. Ён фактычна перацтварыў Воўпу ў сваю рэзідэнцыю і вельмі клапаціўся аб парафіі. Дастаткова вялікая (на той час налічвала 50 дамоў) парафія мела добры даход з навакольных вёсак і мястэчак. Так, напрыклад, для пабудовы ў 1526 годзе і абслугоўвання прытулку для 4 ксяндзоў-місіянераў працавалі два фальваркі, мёд пастаўлялі з Гудзевічаў (што за 10 км ад Воўпы), акрамя таго, карысталіся местачковым млынам і лесам.

Пасля смерці Паўла Гальшанскага Воўпа вярнулася ў дзяржаўны скарб і стала цэнтрам багатага Ваўпянскага староства. А ў 1624 годзе яе выкупіў для сябе знакаміты Леў Сапега і перадаў мястэчка свайму непаўнагадоваму сыну. Сапегам Воўпа належала аж да 1831 года. Менавіта пры Сапегу быў пабудаваны чарговы касцёл з шасцю драўлянымі алтарамі, адзін з якіх захаваўся дагэтуль і з'яўляецца галоўным упрыгажэннем касцёла ў Воўпе. Алтар зроблены ў стылі пераходным ад маньерызму (позняга рэнесансу) да барока, больш старога драўлянага алтара ў Беларусі, хутчэй за ўсё, не захавалася.





Знешні выгляд парафіяльнага касцёла ў Воўпе

У розныя часы ў Воўпе служылі Мікалай Дыцыюш – у будучым доктар тэалогіі, дэкан віленскага капітула (другая палова XVI стагоддзя), Мацей Кулігоўскі – аўтар "Дэмакрыта вясёлага" (канец XVI стагоддзя), Юзаф Касакоўскі – будучы віленскі біскуп і адна з найбольш супярэчлівых асоб нашай гісторыі. Касакоўскі згадваў гады прабоства ў Воўпе як самы лепшы час свайго жыцця. Менавіта ён, будучы чалавекам вельмі набедным, за свае грошы збудаваў у Воўпе касцёл, які стаіць да цяперашняга дня. Касцёл Яна Хрысціцеля быў асвечаны 10 сакавіка 1776 года, у новую святыню перанеслі старажытныя алтары, амбон, лаўкі і іншае аздабленне.

У канцы існавання Рэчы Паспалітай парафію передалі для забеспячэння Віленскага ўніверсітэта, які збудаваў у Воўпе школу. Наогул Воўпе шанцавала на адукаваных і адданых людзкой і божай справе святароў. Яны ўтрымлівалі школу, падтрымлівалі жабракоў, збудавалі шпіталь. Дзякуючы такім святарам і адданым парафіянам касцёл перетрываў і савецкія часы. Сёння касцёл Яна Хрысціцеля ў Воўпе – шанаваны шэдэўр драўлянай архітэктуры.

## АКТУАЛЬНА

*Ватыканскае радыё*

### Новы прадстаўнік Святога Пасаду ў жэнеўскім бюро ААН

Святы Айцец прызначыў назіральніка Святога Пасаду ў жэнеўскім бюро ААН, спецыялізаваных установах у Жэневе, Сусветнай гандлёвай арганізацыі і Міжнароднай арганізацыі па міграцыі.

Гэтую пасаду заняў арцыбіскуп Фартунатус Нвачукву, папярэднім месцам служэння якога была Апостальская нунцыятура ў сталіцы Трынідада і Табага. Ён таксама быў Паўнамоцным прадстаўніком Святога Пасаду ў Карыбскай супольнасці (CARICOM). Раней, з 4 верасня 2007 года па 12 лістапада 2012 года, нігерыйскі іерарх кіраваў пратаколам у Дзяржаўным сакратарыяце. Ён змяніць у Жэневе арцыбіскупа Івана Юркавіча, які 5 ліпеня 2021 года атрымаў прызначэнне ў Апостальскую нунцыятуру ў канадскай Атаве.

### У Ватыкане абмеркавалі бюджэт і інвестыцыі Святога Пасаду

У Ватыкане прайшло пасяджэнне Рады па эканамічных пытаннях, прысвечанае, галоўным чынам, абмеркаванню бюджэта Святога Пасаду на 2022 год.

Зала друку Апостальскай Сталіцы паведаміла, што ўдзельнікі нарады абмеркавалі таксама тэму інвестыцый Ватыкана і план дзейнасці на наступны год, прадстаўлены Генеральным рэвізорам.

На пасяджэнні прысутнічала большасць членаў Рады, астатнія бралі ўдзел у дыскусіях, дзякуючы спалучэнню праз інтэрнэт. У сувязі з тым, што старшыня Рады кардынал Рэйнхард Маркс павінен быў выконваць некаторыя неадкладныя абавязкі, адну з сесій узначаліла новы віцэ-каардынатар Рады прафесар Шарлот Кройтэр-Кіркхоф.

На завяршэнне сустрэчы кардынал Маркс узначаліў цэлебрацыю св. Імшы.

### Папа прызначыў Надзвычайнага камісара для Санта-Марыя-Маджорэ

Задачай кс. Раландаса Макрыцкаса, які дагэтуль знаходзіўся на службе ў Першай секцыі Дзяржаўнага сакратарыята, будзе эканамічнае і фінансавае кіраванне. 49-гадовы літоўскі святар зоймецца каардынацыяй працы спецыяльнай Камісіі, у якую ўвайшлі прадстаўнікі некалькіх ватыканскіх фінансавых структур. Капітул жа адной з чатырох вялікіх папскіх базілік, які ўзначальвае кардынал Станіслаў Рылка, захавае за сабой літургічныя функцыі і працягне спрыяць душпастырскай дзейнасці.

У паведамленні Залы друку Святога Пасаду рашэнне тлумачыцца неабходнасцю рэакцыі на складанасці эканамічнага і фінансавага характару, якія справакавала сітуацыя, звязаная з пандэміяй.

### Малітоўныя інтэнцыі на студзень

**паўсюдная**

Молімся, каб Пан даў нам ласку жыць у поўным братэрстве з братамі і сёстрамі з іншых рэлігій, молячыся адзін за аднаго, з адкрытасцю на ўсіх.

**дыяцэзіяльная**

Молімся, каб Пан бласлaвіў усіх, хто прыслухваецца да голасу Святога Духа ў час трывання I Дыяцэзіяльнава сінода.

# АСВЯЧЭННЕ НОВАГА КАСЦЁЛА Ў ГРОДНЕ




працяг са с. 1

**25 снежня, ва ўрачыстасць Божага Нараджэння, біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч асвяціў касцёл Найсвяцейшай Панны Марыі Вастрабрамскай, Маці Міласэрнасці, у Гродне (Аўгустовак).**

*Кс. Юрый Марціновіч*

Новая святыня ў стылі неабарока паўстала на месцы былога маёнтка Аўгустовак, які належаў апошняму каралю Рэчы Паспалітай Станіславу Аўгусту Панятоўскаму.

Парафія, якая мае тытул галоўнай апякункі Гродзенскай дыяцэзіі, была зарэгістравана дзяржаўнымі ўладамі 10 студзеня 1998 года.

На святой Імшы ў новым касцёле сабраліся шматлікія вернікі разам са сваім пробашчам кс. Аляксандрам Шэметам, госці парафіі і ахвяравальнікі. Падчас Эўхарыстыі асаблівая падзяка скіроўвалася Богу за дар гэтага касцёла, а таксама ўсім людзям добрай волі, якія прычыніліся да яго ўзвядзення.

Біскуп Аляксандр Кашкевіч падкрэсліў, што новая святыня яшчэ больш упрыгожыць горад над Нёманам, а таксама стане для мясцовых парафіян асаблівым месцам сустрэчы з Богам.

Іерарх падзякаваў пробашчу парафіі і вернікам за іх намаганні і самаадданасць, дзякуючы якім у такі ўрачысты дзень Божага Нараджэння яшчэ адзін каталіцкі касцёл адчыніў свае дзверы для вернікаў.

## ПАЎСЮДНЫ КАСЦЁЛ

**ЛАЦІНСКАЯ АМЕРЫКА.** Старшыня Касцёльнай асамблеі краін Лацінскай Амерыкі і Карыбскага басейна (CELAM) арцыбіскуп Мігель Кабрэхас Відартэ заявіў аб далейшых намаганнях па стварэнні сеткі абароны жыцця. Іерарх заклікаў мясцовыя Касцёлы рэгіёна пацвердзіць сваё пакліканне быць "адвакатамі справядлівасці і абаронцамі бедных". Ён звярнуў увагу на тое, што ўрачыстасць Божага Нараджэння з'яўляецца прывілеяванай нагодай для сузірання таямніцы Сына Божага, які прыходзіць, каб збавіць нас і зрабіць вестунамі надзеі.

**ІТАЛІЯ.** З-за чарговай хвалі пандэміі каранавіруса катэдра ў Фларэнцыі зачыняе дзверы для турыстаў. У выніку выпадкаў COVID-19 і неабходнага карантыну сярод персаналу сабор Санта-Марыя-дэль-Фьёрэ не зможа прымаць наведвальнікаў. Літургія ў катэдры працягнецца згодна з планам. Пакуль невядома, колькі будзе доўжыцца цяперашняя сітуацыя і калі зноў можна будзе наведаць святыню. Катэдра ў Фларэнцыі з'яўляецца рэзідэнцыяй мясцовага арцыбіскупа. Яе кансэкраваў у 1436 годзе папа Яўген IV. Па даўжыні галоўнага нефа гэта чацвёрты ў Еўропе храм пасля базілікі св. Пятра ў Ватыкане, англіканскай катэдры св. Паўла ў Лондане і катэдры Нараджэння НПМ у Мілане.

**ПОЛЬШЧА.** Адказваючы на заклік папы Францішка адчыніць дзверы для мігрантаў, якія прыбываюць у Еўропу, Сталая рада Канферэнцыі епіскапату Польшчы запэўніла ў гатоўнасці дапамагаць мігрантам і бежанцам, якія прыбываюць у іх краіну. У паведамленні нагадвалася, што гэты від дапамогі імігрантам, якія ўжо жывуць і працуюць у Польшчы, на працягу многіх гадоў прапануе "Карытас". "Гэтая дапамога будзе працягвацца і развівацца", – запэўнівае арцыбіскуп Гандэцкі. Таксама біскупы просяць усіх суайчыннікаў маліцца за патрабуючых мігрантаў у Еўропе і ва ўсім свеце.

**ІНДЫЯ.** Урад Індыі заблакіраваў сёстрам Маці Тэрэзы магчымасць атрымліваць сродкі з-за мяжы, матывуючы гэта тым, што яны не выконваюць мясцовае заканадаўства. Цяжкасці сясцёр Маці Тэрэзы з'явіліся пасля шэрагу нападаў на хрысціян у некаторых частках Індыі з боку правых індуісцкіх груповак, якія абвінавачваюць святароў і Касцёлы ў прымусовым навяртанні. Місіянеркі любові пацвердзілі ў заяве, што ўрад не замарозіў іх рахункі, але дадалі, што іх просьба аднавіць ліцэнзію на атрыманне дапамогі з-за мяжы не была ўхвалена.

*Падрыхтавана на падставе інтэрнэт-крыніц.*

# ГЛЯДЗЕЦЬ НА ВЕРУ ЧАЛАВЕКА – ГЭТА НАЙВАЖНЕЙШАЕ

**Аб падрыхтоўцы хросных да важнай ролі, аб патрабаваннях і ролі веры ва ўсім гэтым паразмаўлялі з кс. канонікам Дзмітрыем Пухальскім, спецыялістам па кананічным праве Каталіцкага Касцёла, канцлерам Мітрапалітальнай курыі ў Мінску.**

*Размаўляла Кацярына Паўлоўская*

*– Ксёндз Дзмітрый, як у ідэале павінна выглядаць падрыхтоўка хросных?*

– Ёсць пэўныя патрабаванні, якія хросныя павінны выконваць. Адно з іх гаворыць аб тым, што хросны павінен быць прыкладам веры для свайго хрэсніка. І пытанне: каго сёння выбіраюць на хроснага? Калі гэта, умоўна кажучы, "касцёльны" чалавек – можа, міністрант, можа, арганіст, можа, асоба, якая пастаянна ходзіць у касцёл, усе сакраманты прымае, – гэта адна справа, а іншая справа, калі мы кажам: "Хросны католік – дзякуй Богу, хрышчаны і ў касцёле бывае, хоць, можа, не так часта". Бачна, што розны ўзровень падрыхтоўкі гэтых людзей, розны ўзровень веры і катэхетычных ведаў. Фармальна амаль што кожны католік падыходзіць для гэтай функцыі, але тут гаворка ідзе не аб фармалізме.

Зыходзячы з той сітуацыі, у якой знаходзіцца кандыдат на хроснага, трэба глядзець і на падрыхтоўку. Тое самае і з бацькамі. Кодэкс кажа, што бацькі таксама павінны прыйсці, падрыхтавацца. І адна справа, калі бацькі практыкуючыя, веруючыя, як мы называем, "ужо пятае дзіцятка хрысціць", а іншая справа, калі людзі з Касцёлам маюць не вельмі цесныя сувязі, у іх нарадзілася першае дзіця і прыйшлі яго пахрысціць – тады зусім іншая падрыхтоўка павінна быць як для адных, так і для другіх.

Камусьці можа хапіць і адной сустрэчы. Нядаўна ў мяне быў выпадак у парафіі, што сустракаліся тройчы. Так сталася, што людзі захацелі прыйсці на сустрэчу зноў. А пасля хросту самі пажадалі прыступіць да Камуніі. Вось так Пан Бог задзейнічаў. Бываюць настолькі розныя сітуацыі, што пад адзін грэбень я б грэбці не стаў.

Напэўна, пробашч павінен ведаць, хто будзе хросным. Аднак часта бывае, што хросныя прыязджаюць здалёк на сам хрост, і тады няма сэнсу патрабаваць, каб яны прыехалі на тыдзень раней. У падобным выпадку можа быць так, што хросны прывозіць з месца жыхарства нейкі дакумент, які сведчыць аб тым, што ён веруючы католік, прыняў сакраманты і гэтак далей.

*– Запытаюся адносна фармальных варункаў, якія належыць выконваць хросным бацькам: што з'яўляецца галоўным?*

– Галоўнае тое, з чым бывае найбольш праблем: каб хросны з'яўляўся католікам, які прыняў Першую Камунію, канфірмацыю, а таксама вядзе жыццё, згоднае з верай і з тымі абавязкамі, што павінен выканаць. Так напісана ў Кодэксе Кананічнага Права. Фармальна гэта можа быць католік, ахрышчаны і канфірмаваны – гэта лёгка ацаніць. Прыступае да Камуніі ці не прыступае – таксама. А вось жыццё, згоднае з верай, з тым абавязкам, каторы павінен выканаць, – гэта, канешне, ацаніць бывае даволі цяжка, і тут узнікае шмат пытанняў, адказы на якія пробашч павінен нейкім чынам распазнаць.

Вельмі часта на хросных бацькоў бяруць асоб, якія жывуць не ў сакраментальным шлюбе. Гэта першая перашкода, якая адразу кідаецца ў вочы. У нашай краіне трохі змякчаецца гэтае патрабаванне. "Дзякуй Богу, знайшлі католікаў. Ужо якія ёсць, такія ёсць", – такі падыход існуе. Справа трошкі кульгае, бо гэта найбольшая праблема – знайсці католіка, які б адпавядаў усім патрабаванням.

Сярод іншых патрабаванняў – каб чалавек не быў звязаны кананічным пакараннем; зразумела, каб не з'яўляўся бацькам альбо маці таго, хто прымае хрост; пытанне ўзросту таксама – Кодэкс патрабуе 16-гадовы ўзрост, але біскуп, пробашч ці сам служыцель сакраманту, калі палічыць патрэбным, можа зрабіць выключэнне.

*– Калі б Вы рыхтавалі хросных, што б сказалі ім у першую чаргу?*



– Хм... Перш за ўсё, я б запытаўся, што яны ведаюць аб тых абавязках, якія на сябе прымаюць. Практыка паказвае, што людзі, скажам так, "касцёльныя" часта ўпэўнены, што адзін з галоўных абавязкаў – выхаваць хрэсніка, калі з бацькамі штосьці станецца (не дай Божа, канешне!). Яны ведаюць, што маюць заданне канкрэтна ад Касцёла.

Функцыя хросных бацькоў – гэта таксама пэўная касцёльная пасада. Пасада, заданне, каб быць правадніком – перадусім, у веры – для сваіх хрэснікаў. Пасля даходзім да пытання, што значыць быць праваднікам у веры? Тут ужо трэба глядзець на ўласнае жыццё, рэгулярнасць сакраментальнага жыцця, на сваю веру.

*– Што б Вы параілі святарам?*

– Глядзець на веру чалавека – гэта найважнейшае, па сутнасці. Хаця веру вельмі цяжка ацаніць. Чым яе памераць? Тым не менш, у гэтым кірунку зайсці трэба ісці. Калі прыносяць дзяцей на хрост, святар пытаецца: "Аб чым просіце Касцёл?" – а прысутныя адказваюць, што аб хросце. Калі дарослы прымае хрост, то ён просіць аб веры.

Гэтая вера сапраўды найважнейшая. Многія фармальнасці можна абысці, Кодэкс у гэтым значэнні вельмі лаяльны. Святару даецца распазнанне, каб ён адчуў веру чалавека, каб той развіваў агеньчык веры, які мае ў сабе, і, узрастаючы ў ёй сам, мог перадаваць яе сваім хрэснікам.

*– Калі асоба не католік, але па жыцці з'яўляецца добрым чалавекам, ці можа яна быць хросным або хроснай?*

– Калі казаць пра кандыдатаў на хросных, то добры чалавек перадусім павінен быць хрысціянінам. У мяне была такая сітуацыя, што бацькі прывялі будыста і кажуць, што ён добры чалавек. Магчыма, ён і добры, але не можа быць хросным. Мы перад хростам кажам: "Гэта наша вера. Гэта вера Касцёла, вызнаваць якую – наш гонар у Езусе Хрысце, Пану нашым". Пасля пытанне аб веры скіроўваецца хросным бацькам, таму не хрысціянін не можа быць хросным у такой сітуацыі.

# ШТО ВАРТА ЎЗГАДАЦЬ З ЖЫЦЦЯ КАСЦЁЛА НА ГРОДЗЕНШЧЫНЕ Ў 2021 ГОДЗЕ

працяг са с. 1

**Перабіраючы ўспаміны, галоўнае – зрабіць правільныя высновы.**

Ангеліна Марцішэўская

## АСОБЫ



### Прызначэнне біскупа Юзафа Станеўскага арцыбіскупам Мітрапалітам Мінска-Магілёўскім

*Доўгачаканай стала навіна аб прызначэнні новага арцыбіскупа Мінска-Магілёўскага, а для вернікаў нашай дыяцэзіі гэтая падзея была ўдвайне значнай, бо абранец – гадаванец нашых зямель. Юзаф Станеўскі паходзіць з традыцыйнай каталіцкай сям'і з Заневічаў, непадалёку Гродна. Даўно вядома, што аб пакліканні да святарства для ўнука шмат малілася яго бабуля Апалонія. Сведкі тых часоў неаднаразова ўзгадвалі, што сталая жанчына прасіла аб малітве ў гэтай інтэнцыі таксама ўсіх, хто быў побач. Жыццёвы шлях да святарства, а пасля ўздым па іерархічнай лесвіцы кс. арцыбіскупа Юзафа Станеўскага можа стаць, у першую чаргу, прыкладам малітвы аб пакліканнях да святарства і манаства для нас усіх. Гродзеншчына багатая на католікаў. Кожны з нас мае ў сваёй сям'і, сярод сяброў або ў навучальным асяроддзі верніка Касцёла. І чаму б не ахвяраваць за абраную асобу невялічкую малітву або цэлы Ружанец – як каму даспадобы. Як бачым, рэгулярная малітва абавязкова прынясе плён.*



### Адыход да Пана святара-легенды а. Казіміра Жыліса SJ

*Хоць апошнія некалькі гадоў перад смерцю а. Казімір правёў далёка ад дыяцэзіі, пачатыя ім справы будуць яшчэ доўга адгукацца на нашых землях. Будзе жыць душпастырства вязняў, будзе жыць дыяцэзіяльная відэастудыя, а само імя легендарнага святара будуць доўга памятаць не толькі католікі, але і няверуючыя жыхары Гродзеншчыны. Сярод шматлікіх заслуг а. Казіміра моцна вылучалася яго непахісная пазіцыя ў абвяшчэнні Евангелля, у абвяшчэнні праўды. Езуіт нёс паслугу ў складаныя часы савецкага атэізму, адважна баронячы, а нават адраджаючы хрысціянскую веру. За сваю дзейнасць ён падвяргаўся праследаванню з боку ўлады і той жа ўладай мог быць неаднаразова высланы з краіны, але выстаяў. У цёмныя часы а. Казімір быў сапраўдным правадніком святла, ніколі не згаджаўся на дыялог са злом. Дык няхай і ў актуальныя часы, калі так проста разгубіцца, ягоны такі блізкі і намацальны прыклад будзе сапраўдным маральным арыенцірам.*

## ПАДЗЕІ



### Пажар у санктуарыі Маці Божай Будслаўскай

*Навіна аб пажары ў будслаўскай святыні так моцна скалыхнула краіну, што нельга яе абмінуць – для кожнай з дыяцэзій гэта раўназначна вялікая страта. Пэўна таму, што ў гэтым санктуарыі штогод перасякаліся сцежкі ўсіх католікаў краіны. Тут, як нідзе, вернікі маглі адчуць моц і веліч еднасці ў Хрысце. У выніку бедства святыня засталася без даху, але не без апекі. Клопат вернікаў Беларусі пра базіліку выліўся ў вялікую хвалю салідарнасці. На дзесяты дзень пасля пажару ахвяраванняў было сабрана больш чым на 440 тысяч беларускіх рублёў*. Ужо не кажучы пра тых людзей, якія, пакінуўшы свае абавязкі, кожны дзень збіраліся ў святыні, каб аказаць неабходную дапамогу. Вядомая ісціна, калі штосьці траціш, пачынаеш больш цаніць. Вернікі Гродна зведалі яе асабіста, калі гарэла катэдра, а пасля ў ходзе рэстаўрацыі яе інтэр'ер зазіхацеў пазалотай згодна нанова адкрытым старадаўнім планам. Магчыма, пасля аднаўлення будслаўскай святыні, мы адкрыем "золата" і там...*

***На дадзены момант збор сродкаў працягваецца.**



### Пілігрымка з копіямі найбольш шануемых сярод католікаў абразоў Багародзіцы

*З Гродна пачалася і ў Гродне скончылася паломніцтва копій абразоў Марыі з найбольш вядомых санктуарыяў Беларусі: з Будслава, Браслава, Брэста, Бялынічаў, Гродна, Гудагая, Лагішына і Тракеляў. Іх арыгіналы былі ў свой час каранаваныя папскімі каронамі, што азначае прызнанне іх духоўнага значэння на нашай зямлі і за яе межамі. Плён даверу краіны Маці Божай у складаны для народа час бачны на прыкладзе суседняй Польшчы. Св. Ян Павел II аддаў гэтую краіну апецы Багародзіцы ў 1978 годзе, калі камуністычная сістэма не давала духоўна развівацца палякам. "Як моцна прагну Табе, Маці, даверыць усе тыя цяжкія справы грамадстваў, сістэм і дзяржаў, якія нельга вырашыць праз нянавісць, вайну і самазнішчэнне, а толькі праз мір, справядлівасць і павагу да праў людзей і народу", – адзначыў тады ў акце даверу Святы Айцец. І цягам дзесяцігоддзя польскі народ здолеў вырвацца з палону. Дык няхай жа пілігрымка, мэтай якой было з'яднанне беларускага народу ў няпрасты час грамадскапалітычнага крызісу, ператворыцца ў падарожжа нашай штодзённай малітвы да сэрца Маці Божай, каб выпрошваць такія патрэбныя нам усім ласкі.*

## АДЗНАКІ



### Навагрудчына – чарговы духоўны асяродак дыяцэзіі

*Навагрудак і Уселюб падзяляе адлегласць усяго ў 14 км, але, акрамя фізічнай блізкасці, яны блізкія і духоўна. Апошнім часам гэтыя населеныя пункты славяцца колькасцю розных духоўных ініцыятыў. У Навагрудку ў мінулым годзе стартавала "Біблійная школа", а ва Уселюбе адбыўся "бум" рэкалекцый на разнастайныя тэмы і фестываль праслаўлення "Novafest". У "Біблійнай школе" заняткі адбываюцца кожныя другія выхадныя месяца цягам года. Падчас сустрэч слухачы вучацца пазнаваць Божае слова разам са спецыялістамі Святога Пісання і тлумачыць, разважаць яго ў групах. Ва Уселюбе ж можна абраць адпаведны для сябе час і адпаведную тэму для паглыблення. Разнастайнасць рэкалекцый сапраўды ўражвае: духоўныя практыкаванні адносна прабачэння, распазнання сучасных ідалаў, раскрыцця жаноцкасці, правільнага стаўлення да смартфонаў, пазнання сябе і г. д. Калі невялічкія парафіі бурляць жыццём не толькі для мясцовых вернікаў, але і прывабліваюць католікаў з усёй краіны – гэта натхняе. І дае глебу для разважанняў: кожны з нас атрымаў ад Бога духоўныя каштоўнасці, якія можна бясконца развіваць у любых умовах.*



### Святкаванне Дня пажылых людзей

*Папа ўстанавіў у Касцёле Сусветны дзень дзядуль і бабуль. Цяпер ён адзначаецца штогод у чацвёртую нядзелю ліпеня з нагоды літургічнага ўспаміну свсв. Яўхіма і Ганны, дзядулі і бабулі Езуса. У нашай дыяцэзіі першае ў гісторыі святкаванне гэтага дня набыло асаблівую ўрачыстасць у парафіі ў Жодзішках, бо адбывалася ў межах фэсту. Няхай гэта будзе прыгожым пачаткам новай традыцыі ва ўсіх мясцовых каталіцкіх супольнасцях. Сталым напамінам, як адзначыў Святы Айцец, што "праз пажылых людзей мы можам захаваць карані народу, атрымаць досвед веры і аценіць каштоўны дар старасці". І хаця маладзёны – гэта розум сучасных тэхналогій і магчымасцей, шукаць мудрасці сусвет заўсёды будзе ў старых.*

# ПЕРАДАЦЬ ДОБРУЮ НАВІНУ СВАЙМУ ДЗІЦЯЦІ



Сяргей Раюнец

Я бываў на розных сустрэчах, дзе ў якасці задання казалі знайсці ў сабе 5 цнот і 5 рэчаў, якія хочацца выправіць. Рэдка хто з удзельнікаў мог знайсці адказ пра свае цноты. А вось пра тое, што выправіць – лёгка. Хіба што большасці з нас лягчэй заўважаць у сабе дрэннае, чым добрае. І, як звычайна, гэтая асаблівасць сягае каранямі ў дзяцінства, калі дзіцю кажуць, што ён зрабіў штосьці не так, але мала адзначаюць, што ён робіць правільна і добра.

Сёння я (з дапамогай сваёй каханай жонкі, якая шмат чытала і шчодра дзялілася са мной ведамі) хачу распавесці, што для мяне стала пэўным адкрыццём: вельмі часта дрэннае ў павodзінах малога дзіцяці насамрэч не дрэннае, а звычайнае і незаўважнае з'яўляецца вартым падзякі.

Дык вось, адкрыццём для мяне было тое, што часцей за ўсё дзеці не маюць злога намеру, калі робяць штосьці дрэннае ў вачах бацькоў. Напрыклад, не слухаюцца, капрызяць, не рэагуюць на заўвагі. Дзіця цалкам мае права капрызнічаць, калі, скажам, стамілася, хоча есці ці спаць, калі адбылася змена абстаноўкі і яно траціць сілы на адаптацыю (напрыклад, пайшло ў дзіцячы садок, і няхай з таго моманту ўжо мінула пара месяцаў) і г. д. І мая справа як дарослага – усвядоміць, прыняць і пастарацца перанакіраваць яго на штосьці больш пазітыўнае.

Дарэчы, яшчэ ёсць стадыя адмаўлення (3-4-гадовыя "нехачушкі"), калі дзіця спрабуе зразумець сябе асобна ад бацькоўскай волі і выпрабоўвае межы бацькоўскай любові (хай жа яны будуць у гэты момант вельмі шырокімі!). Гэта таксама дастаткова няпросты час для ўсіх. Але за ўсё гэта не варта лаяць дзіця.

З іншага боку, ёсць яшчэ і тое, за што дзіця можна хваліць, але мала хто хваліць. І пачынаць тут неабходна таксама з самага малога ўзросту. Напрыклад, маленькае дзіця трэба апрануць, і яно дае сябе апрануць, а не выварочваецца і крычыць – шыкоўная нагода яму падзякаваць. Калі дае сябе пакарміць, выкупаць ці ўжо нават само есць і самастойна гуляецца – дзякуй табе вялікі за тое, што самастойна гуляешся, а мама з татам могуць зрабіць нейкія свае справы. Праз гэтыя простыя пагадненні з абставінамі і падзяку дзіця ўсведамляе, што яно важнае, што яго любяць і што ад паслухмянасці бацькам ёсць карысць і радасць.

Вось такія, здаецца, простыя дзеянні і словы, а з іх можа выйсці шмат пазітыўнага. Такі просты цуд.

# “ПРЫНЕСЛІ, ПАХРЫСЦІЛІ І ДА ПАБАЧЭННЯ”.

## АЙЦЕЦ ФЕДАРОВІЧ ПРА ХРОСТ І АДКАЗНАСЦЬ



**А. Павел Федаровіч – марыянін. Вікарый парафіі ў Барысаве. Святарскае пасвячэнне прыняў у 2016 годзе. Працаваў у Мінску і Казахстане. Студэнт Люблінскага каталіцкага ўніверсітэта па спецыяльнасці Дагматычная тэалогія.**

*працяг са с. 1*

***Размаўляў Арцём Ткачук***

***– Чаму ў нас прынята хрысціць дзяцей, бацькі якіх, мякка кажучы, слаба практыкуюць хрысціянства?***

– Перш за ўсё, трэба глядзець з перспектывы, што дзіця павінна ўзрастаць у Божай ласцы з маленства. Хрост дзяцей звязаны з далейшым іх выхаваннем бацькамі, але не толькі. Айцы Касцёла вучаць, што хрысціць сам Хрыстос. Таму хрост закладвае ў дзяцей Божае насенне.

Другая справа, што дзеці невінаватыя. Калі бацькі не скончылі ўніверсітэт, гэта ж не азначае, што дзеці не могуць атрымліваць адукацыю. Таму не варта пазбаўляць дзяцей Божай ласкі.

***– То-бок, Касцёл давярае Божаму дзеянню больш, чым бацькам?***

– У пэўным сэнсе так. Я б выкарыстаў тут вобраз прыпавесці пра Божае слова – зерне ў сэрцы дзіцяці пасеяна, а як яно ўзыдзе – будуць ці не пра яго дбаць бацькі, або яно само прарасце, – аднаму Богу вядома. Дзіця праз 10 гадоў можа сказаць: “Завядзіце мяне ў касцёл”. Здараюцца і такія выпадкі. Ідзе падрыхтоўка да Першай Камуніі, бацькі пачынаюць узрастаць разам з дзіцём і вяртаюцца ў Касцёл. У прыпавесці пра сейбіта словы Езуса таксама чуе толькі чвэрць людзей, а тры чацвёртыя – не. Дык што ж, не трэба прапаведаваць?

***– А пра што Вы думаеце, калі размаўляеце з бацькамі, якія прыходзяць пахрысціць дзіця, “бо так трэба”?***

– Увогуле існуе некалькі падобных матывацый. Ёсць адказы тыпу “хрысцім, каб дзіця не плакала ці каб было здаровым”. Другая матывацыя – гэта рэлігійнасць: “Я каталік, і мне трэба пахрысціць маё дзіця”. Бяздумна і па накатанай. Трэці момант, які заўважаю, – “Мы прынеслі, пахрысцілі і да пабачэння”. Вельмі часта падчас падрыхтоўкі я падкрэсліваю, што бацькі прымаюць на сябе абавязак, пытаюся, ці гатовыя яны да гэтага. Усе адказваюць станоўча, але пазней у касцёле могуць з’явіцца, а могуць і не.

Пра цела бацькі дбаюць, а пра душу… Мне падаецца, гэта звязана з рэлігійнасцю саміх бацькоў: часта прысутнічае больш традыцыі і менш веры.

***– А Вас не ўражвае маштаб гэтай сітуацыі? Адбываюцца тысячы хростаў дзяцей, але святары ў адзін голас падкрэсліваюць, што вялізная частка з іх апіраецца не на моцнай веры бацькоў, а на традыцыі.***

– Думаю, гэта моцна звязана са спажывецкім і пасіўным падыходам да Касцёла. Накшталт таго, як я прыходжу ў краму, плачу грошы, і мяне павінны абслужыць. Аднак тут больш шырокая праблема: я прыйшоў у касцёл, пастаяў, але на працягу тыдня не рабіў ніякіх высілкаў – малітвы, чытання Божага слова…

Я праходзіў праз такія моманты, калі хрысціў дзяцей і разумеў, што ўбачу іх толькі на Божае Нараджэнне ці на Вялікдзень. Ты вагаешся, думаеш, ці варта ў такой сітуацыі хрысціць увогуле. Канешне, пэўнае расчараванне прысутнічае, аднак з часам вучышся давяраць і просіш Бога зрабіць штосьці. Хрыстос таксама сеяў і разумеў, што Яго тут не чуюць.

***– Падаецца, калі сёння ў хросце засталося больш традыцыі, чым сэнсу, то ў інстытуце хросных гэтай традыцыі яшчэ больш. Часам каталікі не хочуць браць новых хрэснікаў, бо пазней на святы зашмат выдаткаў…***

– Пра ўмоўнае “цела” хрэсніка варта клапаціцца, і падарункі



могуць адыграць сваю ролю ў адносінах, таму яны таксама важныя. Аднак пагаджуся тут, што праблема выканання абавязкаў хроснымі таксама вострая – на хросце людзі даюць згоду на адно, а на практыцы ўсё выглядае інакш. Думаю, перад тым, як пагадзіцца быць хросным, варта ўзяць пад увагу рэальнасць выканання гэтага абавязку.

***– А што б Вы параілі актыўным католікам, якія з’яўляюцца хроснымі дзяцей з фармальна веруючых сем’яў? Як заставацца верным і распаўсюджваць веру, але разам з тым не стаць нязручным чалавекам для гэтых людзей.***

– Узгадваецца мне фрагмент з Евангелля, дзе Езус кажа, што бацька будзе супраць сына, а маці супраць дачкі. Вера каштуе, салодка ўвесь час не будзе. Будуць перашкоды і цяжкасці. Варта гэта ўсведамляць.

Разам з тым, калі я магу спакойна выказваць сваё меркаванне, дык чаго мне не выказвацца? Вядома, не варта лезці ў чужы агарод, але захаваць сваю годнасць важна. Калі размаўляем за сталом на розныя тэмы, мы ўсе выказваемся. Духоўныя праблематыкі таксама маюць права на існаванне. Ніхто ж не цураецца выказацца на тэму “дызель ці бензін” і паразважаць на гэты конт.

Мне даспадобы фраза св. Францішка, калі не памыляюся, што ёсць сітуацыі, у якіх трэба сведчыць словам, а ў якіх і чынам. Не варта навязваць свайго меркавання, што трэба хадзіць у касцёл, але можна падзяліцца сваім досведам удзелу. У псіхалогіі ёсць такія “я-выказванні” і “ты-выказванні”. То-бок, правільней будзе не пытацца: “Чаму ты ходзіш у касцёл?”, а сказаць: “Я хаджу ў касцёл, таму што…” – і пералічыць аргументы. Замест тыкання лепш узяць аргументы на сябе і расказаць, чым вера з’яўляецца для мяне. Магчыма, гэта запаліць іншага чалавека.

***– У Вашым жыцці так сталася, што хросныя ў літаральным сэнсе замянілі Вашых бацькоў пасля іх адыходу. Як гэта паўплывала на адносіны з імі, на Ваша бачанне хросных?***

– Магу дакладна сказаць, што гэтае бацькоўства спрацавала з хросным. Думаю, гэта звязана, у першую чаргу, з тым, што тата хросны выхаваны ў каталіцкай веры і практыкуе яе. Ён заўсёды мною цікавіўся, запрашаў да сябе, таму кантакт маем вельмі цесны. З хроснай я таксама падтрымліваў кантакт, яна была на маім святарскім пасвячэнні і на іншых важных момантах, аднак сувязь перарвалася. Магчыма, віна ляжыць таксама на мне – варта было пазмагацца за адносіны. Я пра гэта думаю і, мушу сказаць, незадаволены сабой. Трэба штосьці зрабіць, а рукі не даходзяць.

У ідэале хросныя павінны замяніць бацькоў пасля іх адыходу. Гэта вынікае са згоды дапамагаць бацькам, што даецца падчас хросту. У маім жыцці гэта спрацавала. Напрыклад, ёсць такі момант падчас святарскага пасвячэння, калі бацькі бласлаўляюць сваё дзіця – мяне бласлаўлялі хросныя.

***– Часта даводзілася хрысціць дарослых людзей? Можа, раскажаце якую гісторыю?***

– Такая практыка ў маім жыцці не была частай. У Мінску я рыхтаваў школьніцу старэйшых класаў, пазней яна прымала хрост у Вялікую суботу. Яшчэ там жа рыхтаваў жанчыну ўзросту 50+, у Барысаве рыхтаваў да хросту дзяўчыну, якой было 24 гады.

Увогуле, адносна прыняцця сакрамантаў дарослымі я б акрэсліў такі момант. У маёй практыцы было шмат выпадкаў, калі рыхтаваў старэйшых людзей, ахрышчаных яшчэ ў Савецкім Саюзе, якія не практыкавалі веру, але з часам вырашылі прыняць сакраманты св. Камуніі і споведзі. Там таксама ідзе базавая катэхеза пра фундаментальныя рэчы – дэ факта, яны былі ахрышчаныя, але з верай не мелі нічога агульнага.

Галоўнае пытанне – як навучыць гэтых людзей трываць у супольнасці з Богам і з Касцёлам? Гэта пераклікаецца з задачай “дастукацца да чалавека”. Можна асобу ўтрымаць харызмай – пакуль ты ёсць у парафіі, яны будуць прыходзіць. Аднак пытанне, як навучыць адносінам з Богам і не прывязаць да сябе, застаецца адкрытым. Найчасцей рыхтуеш да сакрамантаў, а чалавек пазней можа крыху пахадзіць у касцёл і зноў знікнуць. Хтосьці, канешне, усё ж застаецца.

У Мінску ў мяне быў выпадак, калі адна мама ў старэйшым узросце вырашыла паспавядацца і прыступіць да сакрамантаў. У выніку таксама сям’я яе сына пачала прыходзіць на св. Імшы. А ўсё пачыналася з абуджэння веры маці. У такія моманты ёсць рэальнае пачуццё прысутнасці на духоўным нараджэнні чалавека. Як у размове Езуса з Нікадэмам пра “нараджэнне з Духа”.

***– Ці сапраўды такія людзі цэняць хрост больш, чым ахрышчаныя ў дзяцінстве?***

– Небяспека неафітаў ці ўвогуле людзей, якія перажылі моцнае духоўнае перамяненне (пасля рэкалекцый ці жыццёвых падзей), ляжыць у пераходзе ад прыемнага пачатковага перыяду да рэальнасці. Спачатку ўсё салодка, але пазней пачынаецца духоўная барацьба. Не маючы доўгага досведу, прыкладу веры ў сям’і і бацькоў, такія людзі могуць стаць лёгкай здабычай для злога. Менавіта таму патрэбны супольнасці. На жаль, у Беларусі прапанова пакуль што слабая ў гэтым плане. Ёсць шмат супольнасцей для дзяцей, але для дарослых – адзінкі.

***– Існуе меркаванне, што не варта хрысціць немаўлят. Трэба, каб яны выраслі да свядомага ўзросту і тады самі выбралі Хрыста. Як Вы ставіцеся да такой ідэі?***

– У супрацьвагу такім аргументам хочацца прапанаваць: запытайцеся ў дзяцей, што яны будуць есці, ці хочуць яны хадзіць у садок ці школу. Чаму ідзе такое раздзяленне? Трэба быць паслядоўным у метадах выхавання.

Разам з тым асабіста я і за, і супраць такога падыходу самога па сабе. Да многіх рэчаў трэба дарасці. Можна прыняць хрост у дзяцінстве і ніколі не распакаваць гэты падарунак. Магчыма, калі б дзіця пахрысцілася на пазнейшым этапе, яно б больш цаніла гэта. Я б не быў катэгарычным у падобным пытанні. Папа Францішак шмат кажа пра важнасць распазнавання. Што будзе дзейнічаць у адных выпадках, можа не дзейнічаць у іншых.

ЗАДАЙ ПЫТАННЕ

## Як зразумець, што ў табе жыве злы дух? Ці дапамагае абрад экзарцызму кожнаму?

***grodnensis.by***

*Напачатку трэба крыху прыгадаць дзеянні злога духа. Першае – гэта спакуса. Спакусы бываюць у кожнага. Можна адрозніць натуральныя спакусы і тыя, што паходзяць ад д’ябла. Натуральныя звязаны з нашай слабасцю, калі, напрыклад, парушаем пост, але пры гэтым разумеем, што паступаем дрэнна. Калі ж мы не змагаемся са слабасцямі, не каемся і пастаянна жывём у такім стане, то рызыкуем упусціць у сваю душу злога духа.*

*Спакусы, якія паходзяць ад д’ябла, накіраваны на тое, каб збіць нас у адрозніванні дабра і зла. Нячысты ўзбуджае нашу пыху і стараецца пераканаць нас у тым, што мы самі, без Бога, можам вызначаць, што такое дабро і што такое зло. Інакш кажучы, ён прапаноўвае нам стаць багамі, выцесніўшы пры гэтым рэальнага Бога. Так, напрыклад, аборт з’яўляецца сёння дабром для многіх людзей.*

*Другое – фізічнае ўздзеянне, калі ў чалавека ёсць праблемы са здароўем, невытлумачальныя з медыцынскага пункту гледжання. У гэтым выпадку ўжо экзарцысту трэба даследаваць мінулае чалавека, паглядзець, калі, дзе і пры якіх абставінах злы дух мог паўплываць на яго. Магчыма, праводзіліся акультныя дзеянні, або сам чалавек здзяйсняў абрады, рытуалы ці нават час ад часу іх практыкуе, або яшчэ пастаянна жыве ў цяжкіх грахах і не каецца.*

*Трэцяе – насланнё, калі д’ябал уздзейнічае на чалавека не толькі на фізічным, але і на псіхічным узроўні. Напрыклад, у яго з’яўляюцца неадчэпныя ідэі самагубства, ён упадае ў дэпрэсію, мае невытлумачальныя выбухі гневу ці не можа ўвайсці ў святыню. Пакуль гэта знешні ўплыў злога духа, але ўжо вельмі моцны. Важна сказаць, што бывае вельмі цяжка вызначыць, гэта псіхічная хвароба або духоўная праблема. Таму вельмі важнае даследаванне ўрачоў-спецыялістаў і іх заключэнне.*

*Чацвёртая, самая цяжкая ступень уплыву злога духа – апантанасць. У гэтым выпадку д’ябал прысутнічае ў целе чалавека. Тады праводзіцца экзарцызм – літургічнае дзеянне дзеля вызвалення чалавека ад уплыву д’ябла. Трэба заўважыць, што спачатку святар-экзарцыст гутарыць з чалавекам, з яго роднымі, каб лепш азнаёміцца з біяграфіяй не толькі самой асобы, але і яе сям’і. Канешне, акцэнт робіцца ў гэтых гутарках на тым, ці звярталіся да акультных практык, рытуалаў, абрадаў, магіі, чараўніцтва, праклёнаў, забойстваў, суіцыдаў, абортаў, прымхаў і забабонаў, сатанізму. Вядома, разглядаецца таксама рэлігійнае жыццё чалавека. Трэба разумець, наколькі мы жывём без Бога, наколькі злы дух можа дакрануцца да нас або нашай сям’і.*

*Ці дапамагае экзарцызм? Канешне, так, але тут існуюць два бакі: Божы і чалавечы. Бог заўсёды ідзе насустрач, а чалавек – не заўсёды. Тут важная паслухмянасць Касцёлу і святару, які праводзіць экзарцызм. Усё вельмі індывідуальна, сам працэс выгнання можа доўжыцца гадамі.*

***У нашай дыяцэзіі афіцыйна экзарцыстам з’яўляецца кс. канонік Чэслаў Паўлюкевіч, пробашч парафіі Найсвяцейшай Тройцы ў Росі.***

# (АМАЛЬ) МІСТЫЧНАЯ ГІСТОРЫЯ НА БОЖАЕ НАРАДЖЭННЕ


vaticannews.va

**Час Божага Нараджэння нездарма лічыцца чароўным: нават самыя звычайныя моманты жыцця становяцца прасторай для сустрэчы з Богам. Гатаванне на вігілійны стол, напрыклад, пераўтвараецца ва ўспамін дванаццаці пакаленняў Ізраэля, што чакалі прышэсця Збаўцы, ці ўсведамленне, што кожная наша вячэра (асабліва тая, званая Літургіяй), трымаецца на фундаменце з дванаццаці апостальскіх цаглін.**

*А. Яўген Голуб OFMConv*

Гісторыя, якую сёння раскажу адбылася са мною гадоў трынаццаць таму. Яна не зрабіла мяне больш набожным, эмпатычным, адным словам – лепшым чалавекам. Калі па шчырасці, я нават на нейкі час пра яе забыўся. Раз ці два дагэтуль узгадаў падчас казання на святы і адправіў у "архіў" памяці, каб захаваць у галаве месца на новыя неверагодныя гісторыі. Аднак не так даўно Ангеліна са "Слова Жыцця" звярнулася да мяне з пытаннем, ці не мог бы распавесці чытачам што-небудзь незвычайнае са свайго досведу Божага Нараджэння. А я, узгадаўшы вось гэтую гісторыю, даў згоду, сам сабе здзівіўшыся.

Дык вось, гэта быў звычайны гродзенскі зімовы дзень. Такі наўпрост перадсвяточны, вігілійны. Наша святыня ва ўсю моц упрыгожвалася, ялінкі пахлі хвойным лесам і святам, святары мітусіліся, каб перасправядаць усіх вернікаў, а апошнія нястомна кружылі вакол, не губляючы надзеі здабыць аплаткі, якімі тым жа вечарам паламаюцца з роднымі і блізкімі з найлепшымі віншаваннямі. А я – брат-студэнт, тады яшчэ на клерыкаце – праходзіў у нашай гродзенскай парафіі сваю душпастырскую практыку. У той дзень практыкаваўся ўсё больш у цярплівасці і сузіранні, бо заданне мне было дадзена наўпрост святочнае: сядзець у закрыстыі і раздаваць за невялікае ахвяраванне аплаткі вернікам. Час быў позні, узятай загадзя кнігі хапіла на паўгадзіны. У святыні рабілася зябка і, каб сагрэцца, я вырашыў праявіць актывізм ды крыху падмесці падлогу. Менавіта тут пачынаецца тая незвычайная гісторыя.

На апошняй лаўцы ў цалкам пустой святыні з дзіцём на руках сядзела дзяўчына даволі прыгожага выгляду і плакала. Хлопчык, яшчэ зусім маленечкі і моцна ўкутаны, пасапваў, часамі незадаволена хныкаючы. Адставіўшы шчотку, я падышоў бліжэй, прапануючы дзяўчыне падысці ў закрыстыю, дзе ёй і дзіцяці было б хоць крыху цяплей.

***"Мы тут ненадоўга, пачакаем трошкі ў касцёле. Дзякую шчыра!"*** – адказала яна, усміхаючыся праз слёзы.

Магчыма, чакала свайго мужа, тату дзіцяці, бо раз-пораз углядалася ў экран тэлефона. Калыхала дзіця і нешта жыццясцвярджальнае яму напявала-нашэптвала. Не паспеў распытаць яе пра дэталі. Ды і неяк няёмка было. Праз пару хвілін з'явіліся прагныя аплатак і паразмаўляць парафіяне, таму я вярнуўся да свайго непасрэднага абавязку.

Калі ізноў заглянуў у касцёл, дзяўчыны з дзіцём ужо не было. Можа, тата прыехаў па іх і павёз ва ўтульны цёплы дом? Хацелася б верыць. Але ў чым тады прычына не амаль бязгучнага плачу? Калі так разважаў, раптам ахапіла мяне дзёрзкая думка: "А што, калі?.. Што, калі гэта Яна дазволіла мне такім чынам стаць відавочцам Яе бязгучных бэтлеемскіх слёз? Дала магчымасць падслухаць кавалак Езусавай калыханкі?". Каб было зразумела – я хіба апошні ў сусвеце кандыдат на візіянера, а калі б вы спыталіся маіх братоў пра мае містычна-сузіральныя здольнасці, яны б, напэўна, доўга смяяліся. Але…

Я да сёння не ведаю сапраўднага імені той дзяўчыны і прычыны, якая прымусіла яе чакаць з сынам у халодным касцёле. Але дзесьці ў глыбіні сэрца перакананы, што тады Нараджаны зрэжысіраваў наша спатканне, каб вельмі моцна і яскрава ўсвядоміць мне адну рэч: гэта ўсё сапраўды адбылося. І Звеставанне, і Бэтлеем, і ўцёкі ў Егіпет. Хрост у Іардане ды ўсё, што здарылася пасля. Гэта не заімшэлыя гісторыі старых святароў, не набожныя легенды з пахам маралізму. Гэта – цалкам рэальная Гісторыя, у якой кожны з нас мае свой удзел і сваю ролю.

Проста на хвіліну ўявіце сабе, што было б, калі б Бог пастукаўся ў вашы дзверы з просьбай аб начлезе, менавіта сёння, у небяспечны кавідны час? Што было б, калі б звярнуўся да вас на вуліцы, пачынаючы размову? Калі б незнаёмы з усмешкай ад вуха да вуха працягнуў вам прабітую наскрозь руку на знак супакою падчас Імшы?

А на той момант мне хацелася верыць, што Ён і Марыя бліжэй, чым я думаю, і нашмат больш рэальныя, чым мне здаецца. Ці трэба казаць, што тое Божае Нараджэнне я перажыў крышачку інакш: не больш набожна ці радасна, але напэўна больш свядома.

У гэтай гісторыі няма маралі, ды яна тут абсалютна непатрэбная. Гэта проста напамін пра тое, што на Вяселлі ў Кане Галілейскай танцавалі, сцэны пэўнага размовы дома ў Бэтаніі памяталі размовы да раніцы і плач па сябру, а рыба, згатаваная ля Тыберыядскага возера, была добра прыпраўленай і сакавітай. Усё гэта было на самой справе.

## РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

*Кс. Юрый Марціновіч*

*9 студзеня – Свята Хросту Пана*
*Лк 3, 15–16. 21–22*

Калі народ чакаў і калі ўсе разважалі ў сэрцах сваіх пра Яна, ці не Хрыстос ён, Ян адказаў усім: "Я хрышчу вас вадою, але ідзе мацнейшы за мяне, якому я не варты развязаць раменьчык на сандалях Яго. Ён будзе хрысціць вас Духам Святым і агнём". І сталася, калі хрысціўся ўвесь народ, і калі Езус, атрымаўшы хрост, маліўся, раскрылася неба, і Дух Святы ў цялесным выглядзе, як голуб, сышоў на Яго, і быў голас з неба, які прамовіў: "Ты Сын Мой умілаваны, Цябе ўпадабаў Я".

### Атрымаць Божае жыццё

*Для Хрыста ў момант хросту ў Іардане пачынаецца новы этап жыцця. Цяпер Ён замяняе ўтоенае жыццё ў Назарэце на жыццё вандроўнага настаўніка. Ён будзе падарожнічаць па ўсёй зямлі ізраільскай, абвяшчаючы Добрую Навіну аб збаўленні, якую запячатае сваёй крывёю, пралітай на Галгофе. Ён атрымлівае ад Айца паўнамоцтва на ажыццяўленне гэтай справы, калі над водамі разносіцца голас прызнання: "Ты Сын Мой умілаваны, Цябе ўпадабаў Я".*

*Хрост Хрыста – гэта вобраз нашага хросту, праз які мы атрымалі Божае жыццё і сталі любімымі дзецьмі Бога. Менавіта тады Нябесны Айцец сказаў кожнаму з нас асабіста: "Ты мой сын, Я сёння нарадзіў цябе".*

*Св. Людовік, кароль Францыі, казаў, што больш, чым катэдру, у якой яго каранавалі, ён цэніць палацавую капліцу, у якой быў ахрышчаны. У катэдры ён стаў толькі каралём Францыі, а ў палацавай капліцы – дзіцём Божым.*

*Хрост у імя Езуса адорвае нас новым жыццём, вядзе да таямніцы ўваскрасення і вечнага жыцця. Дзякуючы моцы Святога Духа, робіць нас "Божым храмам", а таксама прызначае да супольнага ўдзелу з Богам у хвале нябёсаў. Там жа "не будзе ўжо ні юдэя, ні грэка; не будзе ні раба, ні свабоднага; не будзе ні мужчыны, ні жанчыны, бо ўсе будуць адно ў Хрысце Езусе" (параўн. Гал 3, 28), абмытыя Яго крывёю і памазаныя Святым Духам.*

*Няхай нядзеля Хросту Пана будзе напамінам пра месца і дзень, калі над кожным з нас прагучала вызнанне Бога, калі мы сталі Яго любімымі дзецьмі.*

*Пане Езу Хрысце, дазволь мне зразумець, чым для мяне з'яўляецца святы хрост, які зрабіў мяне Тваім братам і вядзе згодна з Божымі планамі ў дом Айца!*

*16 студзеня – II Звычайная нядзеля*
*Ян 2, 1–11*

У Кане Галілейскай было вяселле, і Маці Езуса была там. Быў запрошаны на вяселле таксама і Езус, і вучні Яго. І калі не хапіла віна, Маці Езуса сказала Яму: "Не маюць віна". Адказаў Ёй Езус: "Жанчына, ці гэта Мая або Твая справа? Яшчэ не прыйшоў час Мой". Маці Яго сказала слугам: "Тое, што Ён скажа вам, зрабіце". Было ж там шэсць каменных збаноў, пастаўленых для юдэйскага ачышчэння, якія змяшчалі дзве або тры меры. Езус сказаў: "Напоўніце збаны вадою". І напоўнілі іх даверху. І кажа ім: "Цяпер зачэрпніце і занясіце кіраўніку вяселля". І панеслі. Калі ж кіраўнік вяселля пакаштаваў ваду, што стала віном – і не ведаў, адкуль яно ўзялося, ведалі толькі слугі, якія чэрпалі ваду, – то паклікаў жаніха і кажа яму: "Кожны чалавек падае спачатку добрае віно, а калі нап'юцца, тады горшае. Ты ж збярог добрае віно аж дагэтуль". Такі пачатак цудаў учыніў Езус у Кане Галілейскай і аб'явіў славу сваю, і паверылі ў Яго вучні Ягоныя.

### Спазнаць цудоўную перамену

*Першы цуд Езуса быў зроблены не для таго, каб людзі захапляліся Ім і называлі "дабрадзеем вяселля". Не дзеля гэтага туды прыйшоў. Ён прыйшоў перамяняць. У першую чаргу, чалавека. Пачаў ад вады ў віно, каб скончыць найвялікшай – переменай віна ў сваю кроў. Гэта для нас найбольшы цуд і найбольшае вяселле – Эўхарыстыя. Прыняць святую Камунію, запрасіць Езуса ў сваё сэрца і дазволіць Яму перамяніць нас.*

*Кожнаму чалавеку патрэбна перамена. Бо толькі пераменены чалавек, крануты Божай любоўю, здольны знайсці сэнс і радасць жыцця ў звычайных, шэрых буднях. Але каб магчы спазнаць гэта, трэба, як маладажоны з Евангелля, запрасіць да сябе Езуса. Ён не хоча прыходзіць насільна, таму што паважае свабоду чалавека. Ён стаіць і стукае. Калі хто адчыніць, увойдзе і павячэрае з ім.*

*Давайце вучыцца ад маладажонаў жыццёвай мудрасці і, як яны, верыць ад пачатку да канца. Запрашайма Езуса з Марыяй у сваё жыццё кожны дзень, кожную хвіліну. І тады, калі чагосьці пачне не хапаць – здароўя, радасці, надзеі, калі пачне заканчвацца "евангельскае віно", – Езус будзе з намі, як быў у Кане Галілейскай.*

*Пане Езу Хрысце, запрашаю Цябе ў сваю звычайную штодзённасць. Здзейсні цудоўную перамену ў маім жыцці!*

## АД ШЧЫРАГА СЭРЦА

### ВІНШАВАННІ З НАГОДЫ ДНЯ НАРАДЖЭННЯ

***Яго Эксцэленцыі Ксяндзу Біскупу Антонію Дзям'янку*** *жадаем моцнага здароўя, радасці, патрэбных Божых ласкаў, нястомнай апекі Найсвяцейшай Маці і святога заступніка. Няхай Бог адорвае Вас сваёй любоўю і блаславеннем, а Анёл-ахоўнік заўсёды будзе побач.*

*Былыя парафіяне з Навагрудка*

***Паважанаму Ксяндзу Андрэю Казлоўскаму*** *жадаем моцнага здароўя, бязмежных духоўных сіл, стойкасці, доўгіх гадоў жыцця, плённай паслугі на ніве Пана і благаслаўлення ад Дзіцятка Езус. Няхай побач з Вамі заўсёды будуць добразычлівыя людзі.*

*Парафіяне капліцы ў Масалянах*

### ВІНШАВАННІ З НАГОДЫ ІМЯНІН

***Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Яўгену Учкуроніcу*** *жадаем Божага блаславення, моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, цярплівасці, мужнасці, добрых і спагадлівых вернікаў. Няхай Пан Бог дадае Вам моцы, Святы Дух надзяляе мудрасцю і спакоем, Езус служыць прыкладам на святарскім шляху, а Маці Божая заўсёды аберагае.*

*Парафіяне, апостальства "Маргарытка", Легіён Марыі, Маці ў малітве і Ружанцовыя колы парафіі св. Яна Паўла II у Смаргоні*

### ВІНШАВАННІ З НАГОДЫ СВЯТ БОЖАГА НАРАДЖЭННЯ І НОВАГА ГОДА

***Яго Эксцэленцыі Ксяндзу Біскупу Аляксандру Кашкевічу, Ксяндзам Каноніку Здзіславу Вэдэру, Паўлу Шчарбіцкаму, Артуру Ляшнеўскаму, Казіміру Мураву, Аляксандру Мятліцкаму, Віктару Захарэўскаму, Алегу Каралёву, Алегу Жураўскаму, Уладзіславу Сурвілу і Яўгену Учкуроніcу*** *жадаю, каб навароджаны Збаўца адарыў Вас сваімі дарамі: здароўем, радасцю, душэўным супакоем. Няхай добры Бог, які паклікаў Вас да святарства, вядзе праз жыццё і дапамагае пераадольваць усе цяжкасці.*

*Аліцыя Воранава са Смаргоні*

***Паважанаму Ксяндзу Паўлу Гедройцю*** *жадаем шчодрых Божых ласкаў, здароўя і радасці на кожны дзень. Няхай Дзіцятка Езус блаславіць на далейшыя гады паслугі на карысць Богу і людзям, а міласэрны Пан узнагародзіць за адданую працу ў нашай парафіі.*

*Вернікі парафіі Галынка*

***Паважанаму Ксяндзу Яну Сарэлу*** *жадаем радасных і добрых свят Божага Нараджэння, мноства шчаслівых хвілін, сілы і мудрасці ў новым годзе. Няхай Дзіцятка Езус блаславіць Вас на доўгія гады служэння Богу і людзям, а Маці Божая нястомна апекуецца.*

*Станіслава Сідаровіч, Люцыя Лабэцкая, Марыя Вішнеўская і Марына Скорб з парафіі Воўна*

***Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Алегу Яновічу*** *жадаем, каб навароджаны Збаўца, які прыносіць супакой усяму чалавецтву, адорваў Вас сваімі ласкамі: моцным здароўем, радасцю і душэўным супакоем, дабрынёй і зычлівасцю людскіх сэрцаў, а Панна Марыя каб па-мацярынску апекавалася Вамі на працягу ўсяго жыцця.*

*Парафіяне з Воўны*

***Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Здзіславу Пікулу*** *жадаем, каб Езус Хрыстус, Божы Сын, які прыходзіць у гэты свет з дарам збаўлення, умацніў Вас у веры, надзеі і любові, а святло Святога Духа ніколі не згасла ў Вашым сэрцы. Для нас Вы заўсёды будзеце яснай зоркай, якая ззяе кожнаму чалавеку любоўю, дабрынёй і цеплынёй.*

*Касцёльны камітэт і парафіяне касцёла Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі ў Дзятлаве*

***Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Чэславу Паўлюкевічу*** *жадаем здзяйснення ўсіх мар, сілы ў руках і чыстага агню ў сэрцы, які запальвае ўсё вакол Вас шчасцем і радасцю. Няхай нават самае нязначнае Ваша дзеянне дазваляе надалей укараняць духоўнасць еднасці, ствараючы з Касцёла дом і школу камуніі.*

*Парафіяне з Росі*

***Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Раману Ялоўчыку*** *жадаем, каб заўсёды хапала сіл, запалу і стойкасці ў душпастырскай паслузе. Няхай навароджанае Дзіцятка Езус благаслаўляе кожную хвіліну Вашага жыцця і адорвае патрэбнымі ласкамі, а міласэрная Маці мае ў сваёй апецы.*

*Вернікі парафіі св. Міхала Арханёла ў Гнезне*

***Паважаным Ксяндзам Паўлу Калесніку, Анджэю Ганчару, Дзянісу Бразінскаму, Яну Гавецкаму, Артуру Валчкевічу, Віталію Цыбульскаму, Алегу Яновічу, Сёстрам Ірэне, Марыі і Зоф'і*** *жадаем, каб навароджаны Збаўца заўсёды валадарыў у Вашым сэрцы, даючы сіл у службе Богу і людзям. Няхай здароўе, радасць, супакой, любоў і людская зычлівасць заўсёды спадарожнічаюць Вам.*

*Легіён Марыі і апостальства "Маргарытка" касцёла свсв. апосталаў Пятра і Паўла ў Іўі*

***Паважаным Ксяндзам Пробашчу Уладзіміру Гуляю, Віталію Сідорку, Раману Вайцяховічу, Марэку Занеўскаму, Дыякану Уладзіславу Малышку, Сёстрам Галіне Занеўскай, Дануце Бяленік і ўсім, хто находзіцца з нашай парафіі,*** *жадаем, каб Бэтлеемская зорка асвячала Ваш шлях, навароджаны Хрыстос адорваў супакоем, любоўю і радасцю, Маці Божая апекавалася ў кожную хвіліну жыцця, а Святы Дух шчодра ўдзяляў свае дары. Радасных свят і шчаслівага новага года!*

*Касцёльны камітэт, апостальства "Маргарытка" і парафіяне з Ліды-Фары*

***Паважанаму Ксяндзу Алегу Жураўскаму*** *жадаем нязгаснай веры, дароў Духа Святога, Хрыстовай падтрымкі ў кожную хвіліну, ласкі ад Пана Бога на светлым шляху ў Нябесную Краіну. Няхай навароджаны Збаўца адорыць Вас здароўем, радасцю і душэўным супакоем, а таксама ахіне дабрынёй і зычлівасцю ад людзей навокал.*

*Касцёльны камітэт і вернікі парафіі Найсвяцейшага Сэрца Пана Езуса ў Нававельні*

***Паважаным Ксяндзу Каноніку Віктару Веліёвічу і Сястры Паўліне*** *жадаем Божага благаслаўлення на кожны дзень, нястомнай апекі Маці Божай, шчодрых дароў Святога Духа і добразычлівых людзей побач. Няхай здароўе, радасць і супакой ніколі Вас не пакідаюць.*

*Вернікі парафіі св. Роха ў Грандзічах*

***Паважаным Ксяндзам Пробашчу Алегу Яновічу і Леону Лішку, Айцам Вальдэмару Слоту і Валерыю Мазюку*** *жадаем вялікай радасці ад кожнага дня службы, а таксама сіл і здароўя. Няхай міласэрны Бог шчодра ўзнагароджвае Вас, а Найсвяцейшая Маці і Езус Хрыстус будуць для Вас падтрымкай у штодзённым служэнні Богу і людзям.*

*Спадарыня Яніна з сям'ёй*

***Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Адамовічу*** *жадаем, каб навароджаны Збаўца даў Вам сіл і моцнага здароўя на нялёгкім шляху, па якім Вы крочыце ўжо 17 гадоў, каб Святы Дух адарыў Вас сваімі шчодрымі ласкамі, а Маці Божая нястомна апекавалася.*

*Парафіяне з в. Гінэлі, парафія Нача*

***Паважанаму Ксяндзу Каноніку Генрыху Яблонскаму*** *жадаем, каб навароджаны Збаўца, які прыносіць супакой усяму чалавецтву, адарыў Вас сваімі ласкамі: здароўем, радасцю і душэўным супакоем. Няхай Бэтлеемская зорка вядзе Вас найпрыгажэйшай дарогай да Пана.*

*Парафіяне з Забалаці*

***Паважаным Ксяндзам Дзмітрыю Несцеру, Віктару Савіцкаму і Юрыю Марціновічу*** *жадаем моцнага здароўя, радасці, поспехаў, сіл і стойкасці ў складаныя хвіліны жыцця. Няхай навароджаны Езус Хрыстус адорвае Вас усімі патрэбнымі ласкамі і ўзмацняе ў нялёгкім служэнні, а Святы Дух атуляе сваім святлом кожны дзень.*

*Вернікі капліцы Вінцукі*

***Паважаным Сёстрам Марыі Стасевіч, Ірыне Барцэвіч, Веранiцы Блізнюк, Тэрэзе Сольнічак, Валянціне Кот, Юліі Кляўец, Мар'яне Алешчык, Філатэі Ціхановіч, Аляксандры Арэшка, Агаце Смольскай і Клары Волчак*** *жадаю, каб жыццё было напоўнена святлом і любоўю, а Дзіцятка Езус вяло Вас прыгожай дарогай, адорваючы збаўленнем і цярплівасцю.*

*Аліцыя Воранава са Смаргоні*

***Паважанаму Ксяндзу Яўгену Барысюку*** *жадаем, каб Пан Езус, Святы Дух і Маці Божая былі Вашымі самымі блізкімі Памочнікамі ў будаванні Божага Валадарства на зямлі. З нагоды імянін жадаем таксама мудрасці, радасці, шчасця, запалу ў служэнні Богу і людзям, добрага настрою і моцнага здароўя.*

*Парафіяне касцёла св. Андрэя Баболі ў в. Казловічы і рэлігійная супольнасць Святой Сям'і ў аг. Верцялішкі*

***Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Яну Кучынскаму*** *жадаем, каб навароджанае Божае Дзіця адорвала Вас сваімі ласкамі, напаўняла супакоем, радасцю, любоўю і благаслаўляла кожны дзень, каб Маці Божая прытуляла да свайго сэрца і дадавала сіл служыць Богу і людзям, а Бэтлеемская зорка паказвала самы прыгожы шлях да Пана.*

*Малітоўная група Маці Божай Кангрэгацкай*

***Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Юрыю Канапельку*** *жадаем моцнага здароўя, поспехаў, сонечных дзён, шчодрых Божых ласкаў і апекі Найсвяцейшай Маці на кожны дзень жыцця.*

*Парафіяне са Студзенікаў*

***Паважанаму Ксяндзу Ігару Анісімаву*** *жадаем моцнага здароўя, супакою, шчодрых Божых ласкаў. Няхай міласэрны Бог аберагае, Бэтлеемская зорка асвячае святарскі шлях, а Дзіцятка Езус і Найсвяцейшая Маці нястомна благаслаўляюць.*

*Малітоўная група касцёла Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі ў Слоніме*

***Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Руслану Мазану*** *жадаем, каб навароджаны Езус стала валадарыў у Вашым сэрцы, дадаючы сілы ў службе Богу і людзям. Няхай здароўе, радасць, супакой, любоў і людская добразычлівасць заўсёды Вам спадарожнічаюць, а Найсвяцейшая Маці ахінае сваёй апекай і ахоўвае ад зла.*

*Сем'і Гайдук і Прудзілка*

***Паважаным Ксяндзу Прэлату Вітольду Лазавіцкаму і Айцу Казіміру Енджэйчаку*** *жадаем моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, шчодрых ласкаў ад Дзіцятка Езуса і апекі Святой Сям'і на ўвесь 2022 год. Шчасці Божа!*

*Жыхары в. Шэмбелеўцы*

***Паважаным Айцам Пробашчу Андрэю Ядкоўскаму, Юзафу Гензу, Андрэю Врублеўскаму, Эдуарду Пяцельчыцу, Змітру Чарнелю, Максіму Лабкову і Ксяндзу Паўлу Аляскевічу*** *жадаем шчодрых дароў Святога Духа. Няхай навароджаны Збаўца адорыць Вас сваім благаслаўленнем на кожны дзень, добрым здароўем, душэўным супакоем і патрэбнымі ласкамі ў паслузе на ніве Пана, а Маці Божая Нястомнай Дапамогі атуляе Вас сваёй апекай і бароніць ад зла.*

*Францішканскі ордэн свецкіх, апостальства "Маргарытка" і вернікі парафіі Найсвяцейшага Адкупіцеля ў Гродне*

***Паважанаму Айцу Казіміру Енджэйчаку*** *жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою, радасці, цярплівасці і моцы на кожны дзень жыцця. Няхай Божае Дзіця адорыць Вас усімі ласкамі, а Анёлы пакажуць карацейшы шлях да Бэтлеемскай стаенкі.*

*Яна, Валерый і Вераніка*

***Паважаным Ксяндзам Аляксандру Раманоўскаму, Яну Варанецкаму і Андрэю Зайко*** *жадаем добрага здароўя, аптымізму, душэўнага супакою, рэалізацыі планаў і намераў, сапраўднай радасці ад выканання святарскай паслугі. Няхай маленькі Езус адорыць Вас сваёй сілай і любоўю, а святло Бэтлеемскай зоркі свеціць Вам кожны дзень.*

*Парафіяне касцёла Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі, Гродна-Паўднёвы*

***Паважанаму Айцу Андрэю Шчупалу*** *жадаем шчодрых Божых ласкаў, здароўя, радасці і супакою ў сэрцы. Няхай Найсвяцейшая Маці апекуецца Вамі штодзённа, а Бэтлеемская зорка ўказвае дарогу да Пана.*

*Сем'і Заяц, Пішкун і ўся парафія*

***Паважанаму Ксяндзу Вячаславу Матукевічу*** *жадаем моцнага здароўя, доўгіх і шчаслівых гадоў жыцця. Няхай Хрыстос благаслаўляе кожны Ваш дзень, Маці Божая ахінае сваёй любоўю і апекай, а Святы Дух дапамагае годна выконваць святарскую паслугу. Радасных Свят і шчаслівага новага года!*

*Касцёльны камітэт і парафіяне касцёла Нараджэння Найсвяцейшай Панны Марыі ў в. Дуды*

***Паважанаму Ксяндзу Каноніку Яну Рэйшалю*** *жадаем Божага благаслаўлення, аптымізму, моцнага здароўя, душэўнага супакою і добразычлівых людзей побач. Няхай Маці Божая апекуецца Вамі заўсёды, а навароджанае Дзіцятка Езус адорвае ўсімі патрэбнымі ласкамі.*

*Сям'я Рудзевіч з Жалудка*

***Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Рудзевічу*** *жадаем, каб навароджаны Збаўца адорваў Цябе сваімі ласкамі, напаўняў супакоем, радасцю, любоўю і благаслаўляў кожны Твой дзень, каб Панна Марыя апекавалася Табой, а Бэтлеемская зорка паказвала шлях да Пана.*

*Родныя*

***Паважаным Ксяндзам Пробашчу Паўлу Астукевічу і Антонію Адамовічу, а таксама дарагім Сёстрам*** *жадаем, каб прыйсце ў свет Хрыста прынесла з сабой радасць, супакой, надзею і любоў ад усіх людзей. Няхай Пан Бог Вас благаслаўляе і дапамагае перажываць усе цяжкасці, а Святы Дух пранікае ў глыбіню сэрца і напаўняе Вашы дні сваімі дарамі.*

*Парафіяне з Індуры*

***Паважанаму Ксяндзу Яну Гавецкаму*** *жадаем добрага настрою, доўгіх гадоў жыцця, сілы і падтрымкі ў душпастырскай паслузе, а таксама шчодрых Божых ласкаў. Няхай Божае святло асвячае Вашу жыццёвую дарогу. Вы заўсёды ў нашых сэрцах, думках і малітвах!*

*Вернікі парафіі свсв. апосталаў Пятра і Паўла ў Іўі*

***Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Яну Рушніцкаму*** *жадаем, каб Бог благаславіў Ваш шлях, Святы Дух асвячаў яго, а Маці Божая апекавалася Вамі. Няхай кожны дзень будзе шчаслівы, паслуга прыносіць задавальненне і шчодры плён, супакой і надзея напаўняюць сэрца, а ўсмешка і прыхільнасць да людзей стануць натхняльнай сілай і спадарожнічаюць акружаючым.*

*Касцёльны камітэт і парафіяне з Каробчыцаў ды навакольных вёсак*

***Паважанаму Ксяндзу Генадзю Лаўніковічу*** *прагнем выказаць словы шчырай удзячнасці за сціпласць, адказнасць, разуменне, мудрасць і ўменне размаўляць з людзьмі. Няхай навароджаны Хрыстос адорыць Вас сваімі ласкамі і благаслаўленнем. Дзякуем бацькам за сына святара!*

*Сям'я Вайчык*

***Паважанаму Айцу Пробашчу Казіміру Енджэйчаку і шаноўнай Арганістцы*** *жадаем патрэбных ласкаў ад навароджанага Збаўцы свету. Няхай Ваша здароўе будзе моцным, радасць – штодзённай, сілы – бясконцымі, а побач будуць зычлівыя людзі. Сардэчна дзякуем Пробашчу за добрае сэрца і абвяшчэнне Божага слова дзецям, а Арганістцы – за прыгожы спеў і шчырую малітву.*

*Вернікі з в. Плоскаўцы*

***Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні.***

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця;** галоўны рэдактар – **кс. Юрый Марціновіч;**
заснавальнік – **Гродзенская рымска-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання – **1997**; рэгістр. **№1085**; выдавец – **курыя Гродзенскай дыяцэзіі.**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** тэл. **(80152) 61-05-37; (8029) 571-30-77** (мтс); e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com; http://www.slowo.grodnensis.by.**
Друк: **ААТ "Брэсцкая друкарня",** 224013 Брэст, прасп. Машэрава, 75; тыраж 4700; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты.
Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная.